# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

9



СТАРШЫНЯ СНК БССР тав. ГАЛАДЗЕД

## ЗЬМЕСТ:

ПРАЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

АДРАС РЭДАКЦЫІ: МЕНСК, САВЕЦКАЯ 59. ТЭЛЕФОН 17—09

МАЙ — 1932 — НУМАР ДЗЕВЯТЫ



ПЕРШАЕ МАЯ Ў МЕНСКУ

Малюнкі М. Пашкевіча



# Загаловак добры

**В. Сташэўскі.**

Спакойны Серафім Карпавіч, выходзячы з флігелю, заўсёды паглядае на другі паверх АВК. А там у адным габінэце добрыя скураныя крэслы і канапа, адным словам гарнітур з аднаго маёнтку.

Мажліва доўга Серафіму Карпавічу прышлося-б сядзець у флігельку, каб не падскочыла раёнаваньне. Начальства з другога паверху пакінула габінэт. Паслалі каго куды. Флігелек перайшоў у двухпавярховы будынак. Маштаб значыць зьменшыўся.

На габінэт Серафім Карпавіч разьлічваць ня мог, але зусім законнай лічыў сваю прэтэнзію на адно скураное крэсла. І вось здарэньне. Новы начальнік заняўся жывым „інвэнтаром“, а крэсла з габінэту і сплыло. У другім невялічкім габінэціку стаіць яно і сядзіць там Серафім Карпавіч



Работнік акругавага маштабу з комгаснага флігелю, з агульнае канцэлярыі—калі ласка ў асобны габінэцік, на мяккае крэсла.

— Не такая сакрэтная штука гэта раёнізацыя,—кажа Серафім Карпавіч свайму супрацоўніку, Айзіку Міхайлавічу.—А „Лучезарную“ прынесьлі?

— Не, няма, — адказвае Айзік Міхайлавіч,—я ня ведаю, ці будзе яна выходзіць?

— Ну, што вы? „Лучезарная“ будзе жыць.

— А мне ўсё роўна.

— А мне не-э-э. Усё такі, Айзік Міхайлавіч, я магу лічыць сябе хрышчоным бацькам яе. Памятаю: думаюць, думаюць. якую-б гэта назву даць газэце. А я неяк падумаў і так паміж іншае сказаў: „Лучезарный путь“. Вышла газэтка. Чытаю: „Прамяністы шлях“, а гэта па сутнасьці тое самае, Айзік Саламонавіч. Так што—няхай жыве!

---

Задумаўся Серафім Карпавіч седзячы ў крэсьле. „Скураю пакрыта і я сяджу на ім. Было нейкае стварэньне і памёрла. Засталася скура. А калі памру я, што ад мяне астанецца? Ня сьпісаны аванс? О, гэта ня культурна! І галоўнае крыўдна. Скура нейкага, мо' балагольскага каня жыве, а ад мяне як ніяк, работніка акругавага маштабу астанецца голая авансавая расьпіска. Ярунда! Някультурна!“



Яму ўспомніліся словы бацюшкі Салофія, з якім, значыць, часта рэзаліся ў прэфэранс:

— „Калі ты адыходзіш з гэтага сьвету і нічога не пакідаеш, то навошта ты радзіўся?

І доўга думаў над гэтымі словамі Серафім Карпавіч.

Але — што-ж пакінуць? Чацьвёра дзяцей ёсьць, але-ж гэта не навіна, ня тое. Дзеці памятаюць аб бацькох да пары, да часу. Не, тут трэба нешта такое, каб, паказваючы, скажам, на сына казалі:

„Во, гэта сын Серафіма Карапавіча Сакавітага“. А хто ўжо такі быў Серафім Карпавіч—кожны ведае.

Каб заставіць памятку пасьля сьмерці, трэба быць прыкметным у жыцьці, а каб быць прыкметным у жыцьці, трэба пашырыць маштаб сваёй дзейнасьці, прынамсі выйці з крэсла на шырокую грамадзкую арэну. А арэна пашыраецца, калі цябе падвышаюць, а падвысіць могуць за стараньне. Аналізуючы сябе як работніка, Серафім Карпавіч наткнуўся на той момант, калі яму зрабілі заўвагу за тое, што часамі пад мухаю зьяўляўся на службу. „О не, цяпер дудкі“.

Праз канцэлярыю выпісаў сабе сем розных газэт і такі чытаў іх. Айзік Міхайлавіч яго бліжэйшы супрацоўнік, можа быць сьведкам і даказаць, што Серафім Карпавіч заўсёды знаходзіцца ў курсе ўсіх кампаній, якія праводзіліся ўладаю. Калісьці яму здавалася: калі чалавек трапляе ў газэтку—значыць худыя яго справы, а тут заўважае Серафім Карпавіч, што пра некаторых ня толькі добрае пішуць, дык нават нагароды даюць і самае цікавае—портрэты іх зьмяшчаюць.

Айзік Міхайлавіч падаў „Прамяністы шлях“. Зьменшыўся ён крыху форматам. Чытае пра бюрократызм на мясакомбінаце.

— Гэта што-ж, выходзіць новую кампанію барацьбы з бюрократызмам абвясьцілі?

— Хто яго ведае,—паціснуў плячыма Айзік Міхайлавіч,—жывучая штука.

— Жывучая кажаце? Трапечацца? „Животрепещущая“, так сказаць,—адказаў у думцы Серафім Карпавіч і рашыў заняцца гэтай тэмай. Сяго таго з супрацоўнікаў ён выклікаў да сябе, задаў запытаньні, узяў інформацыю і рашыў выступіць. Вычытаў ён недзе, што „ведаць і маўчаць гэта значыць ня ведаць“.

„Бюрократызм на мясакомбінаце, а гэта ўжо рабочае прадпрыемства. Мне яно непадлегла, але можа служыць выходным пунктам, каб сыгналізаваць на прадпрыемствах, падлеглых мне, скажам, кравецкая арцель“...

Праз некалькі дзён Серафім Карпавіч з „Прамяністым шляхам“ у руках трымае гарачую да сёмага поту прамову ў цэху жаночай вопраткі. Зьнішчэньне бюрократызму на даным прадпрыемстве — вось конкрэтны бык, якога трэба залыгаць.

Застанавіўшыся з поўгадзіны на паўстаньні на броненосцы „Пацёмкіне“, ён перайшоў да „Эўропы“, разьбіў „Зимний дворец“, памахаў на кітайцаў, па сьпіску прачытаў крыважэрных генэралаў, некаторыя замурзаліся, дык ён кашлянуў: Ху-пху-фэй, выходзіла прозьвішча, і ён бяз усякіх запінак падышоў да вырашэньня пастаўленага пытаньня:



— Бюрократызм, гэта—сьмецьце і мы яго вынясем на сьметнік! Так і запішэце сабе.

Усё ішло гладка. Кончыў дакладчык „даздрасьцьвіем“ усім раённым, цэнтральным і міжнародным установам, сеў і закурыў папяроску „К. П.“.

Нейкі момант цішыня.

Адна работніца парушыла:

— Таварыш Сакавіты правільна сказаў пра сьмецьце. Яго трэба вынесьці на сьметнік. Мы павінны падзякаваць дакладчыку.

Нехта ўсьміхнуўся, нехта цыкнуў. Вышла нейхая замешка; ня ведалі ці яно ўсур'ёз, ці жартам сказана.

Старшыня сходу глянула на дакладчыка, на публіку і запытала:

— У каго яшчэ ёсьць запытаньні?

Пярэднія лаўкі азіраліся на задніх, а заднія тулілі свае галовы ўніз. Адна толькі старая работніца „панна" Адэля сядзела козырам і смаліла „Пушку".

— У нашай майстэрні пакуль што бюрократызму няма,— прабарытоніла яна падкураным голасам.

Мо каб не яна, дык ня было-б аб чым і гаварыць, але-ж трэба ёй уваткнуць свой язык. А Серафім Карпавіч ня дурны—і ўхапіўся за яго:

— Ага, у вас няма? Змазваньне, парушэньне дырэктыў!

— Таварышы! Вось газэтка. Што тут пішацца пра мясакомбінат? А ў вас няма? Не замазваць трэба гэты самы бюрократызм, а адшукаць яго там, дзе яго і няма.



Больш пытаньняў на гэту тэму ніхто не задаваў.

— Вось вы скажэце, што будзе з памяшканьнем. Ня можам болей мы душыцца тут, — голас тае-ж самае Адэлі.

— Дазвольце, я адкажу, — адразу падхапіўся Серафім Карпавіч.

— Зноў-жа, запытаньне не па сутнасьці сьведчыць аб жаданьні пераключыцца на другую тэму...

— Як?

— Гэта тое самае.

Можа гэты самы бюрократызм і душыць нас тут,—пачуліся галасы.

— Даю адказ, хоць гэтае пытаньне не ўваходзіць у тэму пастаўленага дакладу. Колькі гадоў мы рэволюцыю трымаем? Здаецца, павінны быці-б ведаць, што ўсякія прэтэнзыі таго ці іншага прадпрыемства, альбо нават асобы павінны быць угрунтаваны адпаведнай заяўкай з належнымі подпісамі...

— Падавалі вам заяўкі.

— Выбачайце. Магчыма вы падавалі ў акругу, а цяпер у нас раён з адпаведнымі функцыямі свайго вырашэньня. Вось куды вам і належыць зьвярнуцца ў парадку новае пастаноўкі пытаньня, з адпаведным прынцыповым вырашэньнем яго ў вашу карысьць.

Цяжка што-небудзь дадаць.

На гэтым і разышліся.

Праз некалькі хвілін Серафім Карпавіч сядзеў у палепшаннай сталоўцы ЦРК і з вялікім захапленьнем расказваў аднаму з сваіх таварышоў аб тым, як ён пасадзіў у галёшу свайго опонэнта—работніцу Адэлю. Той адобрыў і сказаў:

— О, ёсьць розныя элемэнты і трэба мецьна іх „сугубое внимание".

— А што калі ў газэтку, яе гэтую лічнасьць сыгналізаваць?

— Ідэя, Серафім Карпавіч. Памятаеце можа, я сыгналізаваў пра мосьціх, што пад гарою ля могілак. Паломяць кажу коні ногі, а праз два тыдні, а можа і меней саўгаская кабыліца лягла там.

— Памятаю, чытаў, чытаў.

— Не, гэта ня было надрукавана і вось вынік — кабылка ляснула.

---

На другі дзень Серафім Карпавіч сядзеў у сваім скураным крэсьле і пісаў артыкульчык у „Прамяністы шлях". Айзіку Міхайлавічу сказаў, каб яго гадзіны тры не турбавалі. Піша Серафім Карпавіч, можна сказаць, першы раз піша ў газэту, адказную проблему вырашае. Пачатак у яго ёсьць: бюрократызм падымае галаву". Канец таксама ёсьць: „ударыць па галаве, каб яна не падымалася на фоне нашага гераічнага будаўніцтва". Але-ж гэта яшчэ не артыкул. І думае Серафім Карпавіч, як гэта найбольш яскрава выявіць конкрэтнага носьбіта, а гэта значыць Адэлю з цэху жаночай вопраткі.

Стук у дзьверы.

Ухапіўся Серафім Карпавіч.

Уваходзіць Адэля і яшчэ адна работніца.

— Давайце, таарыш Сакавіты, вырашаць справу з памяшканьнем.

— А вас хто-небудзь упаўнаважыў?



— Не сабе мы шукаем кватэры, памяшканьня для цэху,—адказала Адэля.

— О-о-о! Бачыце, гэта амаль тое, што Саўнарком.

— Недарэчны ваш жарт, — заўважыла другая работніца."

— Ага, а можа вы зьвярнуліся-б да таварыша Крэйкіна? Ды можа патурбаваліся-б напісаць паясьняльную запіску?



— А вам, таварыш Сакавіты, ня ясна?—заявіла Адэля.—Сеў у скураное крэсла, дык давай яму паясьняльную... памяшканьне для дванаццаці швэйных машын яму трэба паясьняць...

— А вы думалі я прадстаўлю вам за вашы алыя губкі, белыя зубкі?

Задрыжалі губы старой работніцы:

— Пойдзем,—сказала Адэля другой работніцы і ў габінэце зноў застаўся адзін Серафім Карпавіч. „Сама стэрва просіцца ў газэту,—адказаў ён сам сабе і піша далей; „па-бальшавіцку пастаўленае пытаньне барацьбы з бюрократызмам дакладчыкам таварышам Сакавітым С. К. было падтрымана ўсімі работніцамі цэху, але выступленьне работніцы Адэлі Карнельскай павярнула пытаньне ў бок ад надзвычайна актуальнае тэмы і вяло да наяўнага змазваньня такавога, дабы адцягнуць пільнасьць і непрымірымую бязьлітаснасьць пролетарскае грамадзкасьці ў сэнсе сыгналізацыі, магушчых быць вынікаў. Паводзіны работніцы Адэлі Карнельскай павінны завастрыць нашу сугубую ўвагу на конкрэтных носьбітах".

Пайшла заметачка пад загалоўкам: „Даб'ём бюракратызм". Выклікаў Серафім Карпавіч Айзіка і кажа:

— Калі выйдзе наша „Лучезарная" і вы ўбачыце загаловак: „Даб'ем бюрократызм" адразу-ж падайце мне.

---

Праз тыдзень імчыць Айзік Міхайлавіч газэтку:

— Ёсьць, Серафім Карпавіч, вось: „Даб'ём бюрократызм".

І расплыўся чалавек прыемнай усьмешкаю на ўсё мяккае скураное крэсла.



— Сядайце, Айзік Міхайлавіч, і прачытайце самі.

Айзік Міхайлавіч чытае:

„У кравецкай арцелі, жаночы цэх, адбыўся сход работніц, на якім ні з таго ні з сяго чуюць даклад таварыша Сакавітага аб барацьбе з бюракратызмам...

— Што-о-о???

— Так напісана,—адказвае Айзік Міхайлавіч.

— Дайце газэту.

„Мы не супроць пастаноўкі такога пытаньня, але нас абурае тое, што гаворыць аб гэтым пасьлядоўны бюрократ і валакітчык".

— Гэта што, пра мяне?

— Выходзіць так,—адказвае Айзік Міхайлавіч.

— Ня выйдзе! Рэдакцыя дасьць адказ. Іду.

---

— Вы чыталі маю заметку?—пытае Серафім Карпавіч у рэдакцыі.

— Чыталі.

— Ну і што?

— Загаловак добры. Ваш.

— А зьмест вы напэўна праглыталі?

— Не.

Пайшоў Серафім Карпавіч у свой габінэт, сеў на скураное крэсла. Шчупленькі чалавечак, а крэсла шырокае, шырокае...



Андрэй Ушакоў

# ПАЧАТАК ЖЫЦЬЦЯ

нарыс

Яны нарадзіліся пад аранжавым небам колеру вадкай вохры, у маленькім брудных фанзах провінцыі Шан-Дуня і Джы-Лі. Як звычайна, у кожнай сям'і было шмат дзяцей. А зямлі была мала, ды і тая рэзалася на драбнейшыя кавалкі, давала ўсё меншыя ўраджаі. Але былі і шырокія неабсяжныя прасторы тлустай ура- джайнай зямлі ў кітайскіх багацеяў. Маўклівая зямля! Каб яна магла гаварыць, яна-б расказала суровую жорсткую аповесьць кітайскага беднага земляроба. Да ўсходу сонца бацькі разам з ма- лымі дзяцьмі не разгінаючы сьпін, за жменьку рысу працуюць на багатых, пакуль крывяны круг сонца ня скоціцца ў зьнямозе за шырокае неабсяжнае поле жоўтага, шумлівага гаоляну. У поўдзень пячэ сонца і здаецца, што жоўтыя твары прасмалены чорнай сма- лой, смагнуць вусны, голад высмактвае сілы з цяглiц, слабее цела. Гэтак жывуць усё сваё жыцьцё. Таму і жыцьцё здаецца доў- гім і жорсткім, як зморанаму падарожніку дарога ў сібірскі мароз

Маленькія кавалачкі зямлі, але і тыя няма калі апрацоўваць. Уначы, як сон хіліць голаў долу і ад стомы ные цела — пасьля дзённай працы, апрацоўвалі свае ўласныя мізэрныя кавалачкі зямлі. Кожнае сьцябло бобу, кукурузы, рысу было дагледжана. Скары станы кожны грам адкідаў на ўгнаеньне. Па два-тры ўраджаі зьбі ралі за год з зямлі і ўсёроўна галадалі.

Перад уладаю, аддаючы за мізэрныя кавалкі зямлі вялікія на- логі, былі пудлівыя, як авечкі. Часамі цярпеньне абрывалася і, як іскра на вятру, разгаралася крыўда, ненавісьць, кіпучая як сонца, горкая як палын, вострая як боль у сьпіне пасьля 18-гадзіннай работы. Разгаралася каб выбухнуць пажарам і ўспапяліць пера- шкоды да лепшага жыцьця.

---

Вайна 1914 году. Царскаму ўраду патрабаваліся новыя землі багацьці і рынкі. Урад сказаў:

„Бусурманы зьняважылі хрысьціянскую веру. Праваслаўны народ не павінен цярпець гэтай крыўды, пойдзем на абарону айчызны свае, недамося ў крыўду хрыстовым ворагам".

Самы сок народа—маладых, здаровых гналі на фронт, каб павод- каю крыві мільёнаў працоўных пралажыць дарогу, для групкі багатых, на новы рынак.

Пусьцелі вёскі. Палі зарасталі густым быльлём. Слабелі і бяз таго слабыя ўдары пульсаў заводаў і фабрык. Дымары не прапяг- валі да неба далоні густога дыма. Цяжкім поступам, жабраком хадзіў голад. Жорстка сьціскалі яго касьцістыя пальцы пролетар- скае насельніцтва гораду і вёскі.

Царскаму ўраду для вайны патрэбны грошы... Багатыя аўгу- стоўскія лясы. Колькі ў гэтых дрэвах захавана золата!.. Трэба толькі скарыстаць іх, прадаць за мяжу. Не хапае рабочай сілы. Але цар знайшоў выйсьце Па дагаворанасьці з Кітайскім урадам, Кітай абавязваўся даць танныя рабочыя рукі. Сілком разлучылі з роднай вёскай з сям'ею, з блізкімі, знаёмымі.

За тысячы вёрст пагналі ў невядомую краіну, на ўсё жыцьцё ў глуш лясоў.

Брудныя вашывыя кашары. Ад раньня да ночы працавалі, шар- халі піламі, валілі тоўстыя стагоднія дрэвы.

Ня лічылі нават за людзей. Іншыя рабочыя, што працавалі разам з імі, крыўду за свой цяжкі лёс вымяшчалі на кітайцах. „Касавокі хо цзя"—гэтыя словы чорнаю хмараю віселі над іх галовамі і пры- ціскалі да зямлі. Тады з глыбіны дум паўстала пытаньне:

— Чаго яны лезуць да нас?.. Што мы ім дрэннага зрабілі?.. Можа таму, што мы нарадзіліся кітайцамі?..

Кармілі тут усіх бруднаю нішчымнаю заціркай. Грошай не пла- цілі зусім.

— Хопіць таго, што цару вашаму за вас заплаціла царская ўлада, ваша справа цяпер працаваць і маўчаць.

Прыходзілі з працы і як забітыя валіліся на саламяныя тапчаны і засыпалі. І жорсткае жыцьцё у Кітаі ў сто раз здавалася лепшым за жыцьцё лесасекаў.

* * *

Пры стрэчы са знаёмымі Джон-Ван-Фу гаварыў пра працу на зямлі і здавалася словы ягоныя пахлі тлустым чарназёмам, абяца- ючы багатыя ўраджаі і лепшае прыгожае жыцьцё. Людзей цягнула на шырыню палёў, на вёску, з чым так зрасьліся яны з самага маленства. А Джон-Ван-Фу гаварыў, што цяпер кожнаму ёсьць магчымасьць працаваць па сваёй спэцыяльнасьці. Усе яны ў мінулым



Ві-Ді-Ша—конюх ударнік прэміраваны за добры догляд коняй.

агароднікі — значыць трэба працаваць на агарод- най гаспадарцы. Улада дапаможа, — трэба толькі свая ахвота. І пяцёра даверыліся словам Джон- Ван-Фу. Яны ведалі яго з маленства. „Шурка" дарэмна ня будзе трапацца. Кажа значыць — праўда. Шура ведае, што рабіць, — ён комуніст, ён адзін з першых зразумеў рэволюцыю. Зразумеў, што ў рускага і кітайскага пролетарыяту — вораг



Рамонт збруі

адзін — буржуазія і што ёй трэба змагацца. Служба ў чырвонай арміі і ў віцебскай Чэка выхавалі з яго настойлівага бальшавіка.

І ў 1928 годзе ў Мікалаеўскім сельсавеце, Віцебскага раёну організаваўся першы ў БССР нацыянальны кітайскі колгас. Улада дала зямлю, крэдыт, саду 12 дзесяцін.

Кітайцы прынесьлі вялікую ўпартасьць, ахвоту, любоў да працы, але ў іх ня было ведаў у галіне паляводзтва. Яны прызвычаіліся да маленькага кавалачка зямлі ў Кітаі, дзе конская праца заменена ручной, чалавечай. Але не гледзячы на ўсё вышлі на працу, вышлі каб будаваць новае жыцьцё.

Вечарамі на прызьбах зьбіраліся хутарскія бабы і пляткарылі.

— Гэта-ж галаву трэба згубіць. Гэткую зямлю аддаць кітайцам! Сад гэткі. Думаеце напрацуюць шмат? Разьбягуцца з восені, як рыжыя мышы. Сапсуюць зямлю.

— Працаваць ня ўмеюць. Не аруць, а матыкамі калупаюць зямлю. Нават коні запрагаць ня ўмеюць. Нейкія ня хамуты, а чорт ведае што. Мой Міхась казаў, што на Украіне ў гэткія штукі валоў запрагаюць.

— Чулі кумкі мае—суседка іх, хутаранка Ганна казала—і ядуць не па наску. Замест ложак двума палачкамі.

— Дзікуны...

— Няўмекі...

— Божухна-ж ты мой, а нашы кабеты замуж за іх пайшлі. Знайшліся-ж дурні—лепш ужо ў дзеўках векаваць...

— Не, доўга не пратрымаюцца. Гэта ім не ў Кітайшчыне...

Толькі ня ўсе сяляне глядзелі на кітайцаў як на дзікуноў, няўмек.

Праз усе недахопы відна была шчырасьць да працы, рашучасьць тварыць новае жыцьцё. Трэба было ўсё гэта накіраваць у належнае рэчышча, ня даць засохнуць гэтым сьвежым маладым паросткам. Побач быў колгас „Пабеда", ён узяўся дапамагчы кітайцам наладзіць гаспадарку. Прапанавалі аб'яднацца, кітайцы згадзіліся. Былі і такія думкі:

— Забраць у іх сад, зямлю, а кітайцы самі адсеюцца ад колгасу. Так думалі людзі пралезшыя ў колгас, заможныя людзі, якія гадавалі ў сэрца няпэўныя надзеі.

Перад кожнай веснай шушукалі пра будучую вайну, а потым пра падзел саду.

Заварвалася каша. У колгас прысылалі прамтавары. У праўленьні ёсьць свае „брацішкі".

— Нашто кітайцам даваць, пражывуць і бяз тавараў. Людзі-ж яны выносьлівыя...

— „Свая сарочка бліжэй да цела".

І ад гэтай прыказкі гостра пахла шовінізмам. Падобных выпадкаў было шмат. Пришлося ў гэту справу ўмяшацца адпаведным органам.

А у восень 1931 г. ваколічныя сяляне гаварылі пра колгас:

— Усім колгасам гэтак бы працаваць.

І рабсілы здаецца малавата, а ў пору ўправіліся з работай і ўсё уласнымі сіламі... А дружныя якія! Скажа, што ім іх старшыня „Шурка" дык яны гатовы ў агонь і ў ваду пайсьці, каб выканаць сказанае.

— Працуюць добра. Ніводзін колгас так не працуе. Упартыя. Цалюткае лета ваду насілі, ды палівалі агароды. Затое-ж і ўрадзіла. Агуркі—па добрым гарбузу. Спэцыялісты. Умеюць гаспадарыць.

І ў гэтых словах была пашана да кітайскіх колгасьнікаў-агароднікаў.

У колгасе ёсьць кузьня-млын, на якім працуе кітайскі спэцыялісты. Колгас у 1931 г. даў дзяржаве прыбытку дваццаць адну тысячу. Гэта таму, што была ўведзена зьдзельшчына, соцспаборніцтва і ўдарніцтва. Колгас можа ганарыцца сваімі лепшымі ўдарнікамі як Ліво-Чын, які за год выпрацаваў 256 дзён. Ён прэміяваўся некалькі разоў за добрую высокаякасную працу на агародзе.



У вольны час Лі-Вун-Лін робіць для дзяцей цацкі

---

Па тлустых скібах чорнай развадженай растопленым сьнегам зямлі, ішла 3-ая бальшавіцкая вясна. Кожны дзень надымалася з-за невялікага яловага зарасьніку сонца, прывітаючы цёплай таварыскай усьмешкай — брыгадзіра агароднай брыгады—Сун-Ды-Ву. Ён любіць усход сонца і з захапляючай радасьцю глядзіць на расплаўлены сонечны ком. Можа ў гэты час яму прыгадваецца далекая радзіма а



Маладыя калгасьнікі-кітайцы

з падячым сонцам, з жоўтым палямі, з пякельнай цяжкой працай, а потым усплывае контраст — цяперашняе жыцьцё ў колгасе, маладое і радаснае. Ці можа расплывецца ў усьмешцы, што хутка абсохне зямля і ранiцамі ён будзе з сваёю брыгадаю агароднікаў, адкрываць саламяныя маты парнікаў, што закрываюць ад марозу тлустыя грады.

Будуць расьці гадавацца маладыя сьвежыя сьцяблі агуркоў, рэдзіскі, расады, памiдор, будуць піць сокі ўгноенай зямлі і праменьні сьвежага вясновага сонца. А ён будзе іх дагледжваць з брыгадаю з матчынаю ласкаю, каб ніводнае каліва не прапала дарма. За хатаю зьбегам к лесу лягла доўгая агарожа парнікоў: у гэтым годзе закладзена 180 рам. Хутка падасьпее работа.

Ён ідзе ля парнікоў, любуецца імі, слухае сьпевы птушак у блізкім хмызьняку і, здаецца, у тахт птушчыным сьпевам сьпявае сонца песьню вясны, песьню колгаснай працы. У кожным руху яго, шчырая любоў да свае справы, да новай працы. Абапершыся грудзьдзямі на плот парніка, глядзіць на чорную не абсохшую ральлю і ў думках раджаецца меркаваньне:

— Зямля падсыхае пакрысе. Праз дзён колькі глядзі і на поле выйдзем. Усе гатова, абы ішла вясна. І прыпомніў — учора па дарозе ў праўленьне, зайшоў на канюшыню. Усё ў спраўнасьці. Коні перад работай нікуды не ганяюць. Плугі стаяць адрамантаванымі і чакаюць працы. Збожжа яшчэ зімою падрыхтавана. Не хапала толькі 16 цэнтнераў абагуленай бульбы для севу. І колгасьнікі за адзін дзень дабраахвотна прывезьлі больш чым было патрэбна, кожны хоча, каб колгас рос, каб ня было недасеву.

Рост гэты бачаць усе. На днях разглядалі заявы ў колгас сялян з ваколічных вёсак. Іх прынялі. Хто жадае працаваць, той наш. Нават лепш для колгасу, — яны будуць працаваць на полі, а кітайцы на агародзе. Хто да чаго здатны, разьдзяленьне працы. Гэтак і работа спарней. Складзены чатыры брыгады—паляводчая, агародная, садовая і жывёлагадоўчая. Кожная з іх падрыхтавана да вясны. 12 двароў. Сіла невялікая, але трэба ўправіцца.

З хаты выбег малы сынок, Сун-Ды-Ву. Бацька падышоў да яго, ухапіў на рукі і пачаў гушкаць.

— Хутка працаваць пачнем. Цябе ў яслі аддам—гадуйся там з усімі разам, па новаму, расьці дужым. Будзеш расьці ня так як я. Ты ня ведаеш як я рос... От як будзеш вялікім, я раскажу табе пра сваё жыньцё... І ты тады будзеш любіць гэтае новае жыцьцё і новую працу. Эт, ты яшчэ малы—не разумееш... А я люблю гэтую колгасную працу і вясну, бо адсюль пачатак майго сапраўднага жыцьця.

# ШАКАЛЫ

**Ал. Дудар**

Як толькі над жоўтай пустыняй
ноч ўздымаецца чорнай навалай,
на выдмы выходзяць з лагчынаў
ашчэрыўшы зубы шакалы.
Шукаюць бяззубую слабасьць,
пільнуюць зялёную боязьнь
і рады сьмярдзючыя зяпы
хоць падлам напоўніць бяз бою.
Калі-ж чалавека, ці зьвера
спаткаць давядзецца—выгода—
вісклівая крыважэрнасьць
хаваецца ў шпаркія ногі...

... Калі Сунгары засынае
і сьпяць яшчэ тыгры ў чаротах,
цень нейкі тады выпаўзае
з зацішнае падваротні.
За ім другі... трэці... бясконца...
Шагаюць старожка і глуха.
Яны часавому-японцу
пароль ціха шэпчуць на вуха.

Ўспаўзаюць на насып высокі
згінаюцца вухам да рэйкаў:
па рэйках здалёку, здалёку
даносіцца водгалас нейкі...

Вось месяц выходзіць з-за хмары
і кідае бледныя плямы
на шэрыя, хітрыя твары
і на пагоны з арламі.
І, нешта паклаўшы на шпалы,
спускаюцца з насыпу цені.

Адзін за адным, як шакалы,
зьнікаюць кудысьці ў цемень.
Яшчэ прабяжыць поўгадзіны.
Па стыках цягнік загрукоча...
І выбух высока ўздыме
бясксшталтнае, рванае клочча.
Пакруцяцца рэйкі вужамі,
на дыбы вагоны пастануць;
за тулавамі, за нагамі
галовы памчацца фонтанам.
Назаўтра ў бульварных газэтах
завыюць начныя героі:
„Саветы... саветы... саветы..
Да зброі, панове, да зброі!..“
Пасьля гонорар свой пасьпешна
прап'юць у начных рэсторанах...
А ў Токіё пойдзе дэпэша
з тэкстам зашыфраваным.

Куточкамі губ дыплёматы
ўсьмешку зласьлівую скрывяць,
протэстам шматмоўным, гарматным
па сьвеце рабочыя грымнуць.
У штабе погляд генэрала
на карце, дзе крыжык чырвоны,
убачыць, дзе людзі і шпалы
ўзьляталі каскадам шалёным.

І волава цьмяных вачніцаў
ў апошнюю кропку ўпрэцца:
прымроіцца ім на граніцы
вінтоўка чырвонаармейца;
прымроіцца грукат заводаў,
прымрояцца скарбы капальняў
і зоркі Далёкаўсходняй
прымрояцца генэралу.
Памножацца зоркі бяз ліку
у вачох, прарочачы згубу
і нібы шакалавы іклы
бясьсільна заляскаюць зубы.
І голас краіны рабочай
дамчыцца з бяскрайнае далі:

— Чужое зямлі мы ня хочам—
сваёй не саступім ні цалі.

# ПУЛЬС

(Фото—нарыс)

Тэкст В. ПАЛЕСКАГА

Фото РАБІНОВІЧА



1 —

... Так б'ецца пульс заводу „Бальшавік“, так б'ецца яго дужае і энэргічнае сэрца. Гэты бой натхняецца сілаю рабочага колектыву, натхняецца сілаю энтузіязму, натхняецца боем тысячы сэрцаў, моцных, як высокаякасны выраб, сьмелых, як нашы крокі па непратораных шляхох. Гэты бой кіруецца сілаю партыйнага колектыву, кіруецца дзесяткам сэрцаў, моцных, як добрая сталь, сьмелых, як нашы дні. (Мал. 1).

Людзі ўвяжліва прыслухоўваюцца да звонкага біеньня вялікага волата. Пульс удасканальваецца, пульс робіцца чоткім і простым, як снайпэрскі стрэл.

— Мы замянілі вольтмэтр удасканаленым уласным шчотчыкам—радуецца электраманцёр Самуйлаў.

Бюро рабочага вынаходніцтва наладзіла разгляд новае вынаходкі ў самім цэху. На пасяджэньні прысутнічалі вынаходцы: інжынэр Бэкман, старэйшы мэханік заводу і Самуйлаў.



2 —

Вынаходцы расказалі пасяджэньню пра сваю буйную вынаходку, якая вызваляе завод ад імпортаваньня вольтмэтраў з-за мяжы. (Мал. 2).

Самуйлаў вырашыў самае ка[illegible]атковае—станоўку вынайдзенага шчотчыка. Работу распачалі інжынэр заводу Бэкман і старэйшы мэханік. Штодзень на заводзе трэба было вымяраць энэргію, якая траціцца для работы, трэба было вымяраць і павялічваць косінус „фі“. Вольтмэтраў на заводзе не хапае і вынаходцы паставілі задачу: прыстасаваць для вымяраньня энэргіі ўласныя шчотчыкі.

Задуманае выканалі з посьпехам, але новы шчотчык трэба было ставіць на спэцыяльную медную пласьцінку і яе на заводзе ня было.

— Шчотчык можна надзець на мэдныя шыны — заявіў Самуйлаў, доўга перад гэтым думаўшы, вымераўшы дакладныя вынікі работы, вымераўшы эфэкт для свайго соцыялістычнага прадпрыемства. (Мал. 3)

(*Працяг на 10 стар.*)



3 —

Уключаецца рубільнік і ток паварачвае рычагі. Уключаецца рубільнік і электрычная сіла—наша сіла—варушыць калёсы, конвэерам цягне пасы і машынны грукат падымае цэх. У правадох электрычны трэск, сінявата-блакітнае мігценьне апаясвае правады на стыках.

Рабочага Ліўшыца турбавала гэта мігценьне, іскрысты трэск пры ўключэньні свайго рубільніка. Яму хацелася, каб ток ня пудзячыся плыў да машын і пасоў. Рубільнік быў старанна агледжаны, рубільнік быў перайначаны і пры ўключэньні яго ток ня пудзячыся плыў да машын і пасоў, у цэхі, у завод. (Мал. 4).

Электрычная станцыя дае ток. Ток плыве па правадох, бяз трэску і міганьня, у цэхі, да машын. Гонка круціцца, абудзіцель і хутка награваецца. Ад моцнага награваньня хутка зношваюцца часткі. Заводу патрэбен бесьперабойны ток і часткі ня маюць права зношвацца. Там часткі абмежаваны ў сваіх правох, дзе для іх дадзены добры рабочы рэжым, дзе за імі добры нагляд.

Часткі абудзіцеля электрычнай машыны ня могуць псавацца і зношвацца. І гэта добра разумеў інжынэр „Бальшавіка“ таварыш Бэкман. Да абудзіцеля быў прымайстраваны вэнтылятар, які напорам паветры астуджвае часткі і папярэджвае іх зношанасьць. Вэнтылятар работае і нагружае рабочы рэжым абудзіцеля.

ПЕРШАЕ МАЯ

Фото-здымкі: Салавейчыка, Шышко і Маззлева
















**ЗМАГАЮЧЫСЯ СУПРОЦЬ НОВАЙ ІМПЭРЫЯЛІСТЫЧНАЙ ВА**

**БУДЗЕМ УЗМАЦНЯЦЬ АБАРОНАЗД**

У МЕНСКУ












1. Прадстаўнікі партыі і ўраду на трыбуне. 2. Дэманстрацыя фізкультурнікаў. 3. Калёны дэманстрантаў на пляцу Волі. 4-5. Карнавал. 6. Дэманстрацыя школьнікаў. 7. Часткі Менскага гарнізону на пляцу Волі. 8. Ударнікі менскіх прадпрыемстваў. 9. Дэманстранты на савецкай вуліцы.

ы, ПРАВОДЗЯЧЫ ПАСЬЛЯДОЎНУЮ ПОЛІТЫКУ МІРА

ЛЬНАСЬЦЬ САВЕЦКАЙ КРАІНЫ



4 —



6 —

Інжынэр Бэкман забараняе часткам псавацца. І часткі падначальваюцца яго жаданьню. (Мал. 5).

Часткі абмяжоўваюцца ў правох воляю людзей. А на заводзе псаваліся стужкі да імпортнае шпальтмашыны. Шпальтмашына не магла працаваць бяз стужак, цягла за сабой прастоі другіх машын, недавыпуск продукцыі.

Рабочы Казлоў — рабочы соцыялістычнага прадпрыемства. І ён, як гаспадар сваёй краіны, як усе лепшыя на заводзе, ня мог цярпець прастояў. Прастоі білі па гаспадарчым разьліку, білі па прамфінпляну і па добрым настрої Казлова.

Казлоў авалодаў тэхнікай работы на сваім варштаце. А калі так—рашыў Казлоў—значыць мой варштат можа шліфаваць стужкі. З-за стужак імпортныя шпальтмашыны ніяк ня могуць прастойваць.

Шпальтмашыны не прастойваюць. Варштат Казлова шліфуе стужкі, варштат Казлова мае такога гаспадара, які бліскуча авалодвае тэхнікай сваёй справы. (Мал. 6).

7 —





5 —



8

У прабоіны на нажавым вале раней заціскаліся медныя пласьціны. Медных пласьцін на заводзе не хапае. Сьлесар Пятрышча замяніў іх дратовымі кавалкамі і якасьць набіўкі ніяк ня горшая, чымся ад набіўкі меднай.

Раней на заводзе „Бальшавік“ баяліся раматантаваць імпортныя машыны. Калі зрэзаўся вал у хутамэтры, рабочыя паціскалі плячыма:

— Машына псуецца. Ды і раман зваць боязна.

Паціскалі плячыма. Вал хутамэтру зрэзваўся і перашкаджаў рабоце. Потым ударнікі ўзяліся за рамонт (іх настойлівасьць і энэргія ніколі не падводзіла). Рамонт атрымаўся добры.

Зараз ня толькі рамантаваць, але і вырабляць імпортныя часткі навучыліся. Рыфельны вал можна было атрымліваць толькі за мяжой. А зараз на заводзе на ўласным такарным варштаце вырабляюцца рыфельныя валы. (Мал. 7).

Ход пяцістольнай разваднай машыны быў перагружаны лішнімі процэсамі і часткамі. Часткі грузам націскалі на ручкі, на шрубчыкі.



9

Рабочы Батвінік зьняў з пяцістольнае разваднае амаль палову непатрэбных частак. Машына лепш пачала працаваць.

Ударнікі „Бальшавіка“ напісалі ліст да рабочых Кіеўскага машынабудаўнічага заводу. Цяпер Кіеўскі завод прысылае „Бальшавіку“ пяцістольныя развадныя бяз тых частак, якія былі выкінуты Бацьвінікам. (Мал. 8).

Савецкія рабочыя навучыліся скарыстоўваць нават адкіды. Стружкі ад сьвіных скур ідуць у пераапрацоўку на тэхнічнае масла.

Тэхнічная лябараторыя таварыша Арэшкава працуе на поўны ход. Арэшкаву было вядома, што скуры пры сваёй пераапрацоўцы вылучаюць бялкі, якія можна ераапрацоўваць. Шчолакі, у якіх мяклі і габраваліся скуры, пайшлі ў прабіркі і колбачкі. Колбачкі далі вялікае: паказалі магчымасьць выкарыстоўваць шчолакі. (Мал. 9).




10

Ад пераапрацаваных шчолакаў атрымліваецца галаліт. З галаліту выпрацоўваюцца гузікі, грабяшкі і іншыя рагавыя вырабы. Раней гэтыя гузікі, грабяшкі выліваліся ў канавы, цяклі ў брудныя равы і ніклі за заводам.

Савецкія рабочыя навучыліся скарыстоўваць адкіды. (Мал. 10).

„Бальшавік“ вызваляецца ад тэхніка-экономічнай залежнасьці. Рукамі ўдарнікаў, рукамі лепшых рабочых і інжынэрна-тэхнічных работнікаў творыцца гэта незалежнасьць. Рукамі лепшых творацца на заводзе новых ўдасканаленыя машыны, складаныя і дакладныя.

Толькі савецкі рабочы можа арганізоўваць сваю вытворчасьць; той рабочы, што стаў гаспадаром сваёй краіны, што мае добрасумленныя соцыялістычныя адносіны да працы. А такія адносіны могуць выкоўвацца толькі ў нашай краіне, такія адносіны могуць выкоўвацца толькі комуністычнай партыяй.

... так б'ецца звонкі пульс вялікага соцыялістычнага заводу, так б'ецца магутны і дужы пульс мае краіны.

Вяч. Палескі.

# Здань блукае па Эўропе

## УРЫВАК ДРУГІ

*Ангельскія гарнякі абвясьцілі забастоўку. Ажыўленасьць прамысловых цэнтраў спынілася. ТАСС.*

Вецер, вецер
Плач як чалавек,
Вокліч нясі цераз сіні Ламанш!
Прагорклы туман не спадае з павек
Ён грызе нашы вочы
і зрок губіць наш.

Вялікая Брытанія,
Бацькоў нашых айчына!
Мы капаем табе вугаль
Тком найлепшае сукно,
А дзеці нашы плачуць
Галоднымі вачыма,
А жонкі ня скідаюць
Падранае радно.

Не затым мы табе
Працавалі на шахтах,
На дымных заводах,
На вэрфях тваіх,
Каб за мора плылі
Фабрыкантавы яхты,
А мы задарма працавалі на іх.

Вялікая Брытанія,
Бацькоў нашых айчына.
Даволі ты выпіла нашай крыві!
Мы спынім драпежныя твае машыны
Мы прымусім цябе слухаць
Голас жывы!

Мы больш не палезем
У шахты па вугаль,
Ня пойдзем на фабрыкі
Ткаць табе сукно.
Вялікая Брытанія,
Мы больш табе ня слугі,
Мы ня хочам пакутваць
Гэтак ізноў.

Рабочы не машына,
Ён стамляецца хутка —
— Патрабуем зьмяншэньня працоўнага дня!
У рабочага дзеці
Сядзяць без абутку—
— Патрабуем заробак рабочага ўзьняць!

Няхай фабрыканты
І тыя, што з імі
У „крамцы" парляманту ў дудку адну,
Упэўняцца сваімі ўласнымі вачыма,
Што гэта падобна
На клясавую вайну.

## СЬМЕРЦЬ КАПІТАЛУ

Мёртвымі сталі на рэйд параходы,
пустыя катлы ня глыталі ваду,
матросы склікалі на кубрыках сходы
заклікалі змагацца
і там, і тут

Сьмерць капіталу, буржуям сьмерць!

Іржавелі машыны, у пустых агрэгатах
блукаў нярухомы пакутны спалох.
Каля брамы заводзкай вандравалі салдаты
а ні сьмеху, ні грукату рабочых ног...

Сьмерць капіталу!

Як ціха зрабілася на вуліцах людных,
На біржах спыніўся драпежлівы торг.
Затое ў рабочых кварталах брудных
сягоньня крыляюць агні перамог.

Сьмерць капіталу!
Яны разумеюць, за бастонцамі Чэтчэн

грузчыкі, ткальнікі, матросы, гарнякі...
Яны разумеюць, што далей гэтак нельга,
што трэба ламаць капіталу клыкі.

Сьмерць!..

## ДЖОН СЯГОНЬНЯ БАСТУЕ...

Вецер, вецер
плач як чалавек,
вокліч нясі цераз сіні Ламанш!
Хай пачуюць за морам
як Джон тут жыве,
Як даводзіцца Джону вугаль ламаць.

Хай пачуюць, што Джон
не палез за вугалём,
— Д'ябал хай пад зямлёю карпаецца там!
Джон сягоньня бастуе,
бастуе Джон,
як бастуе сто тысяч такіх як ён

. . . . . . . . . . . .

Над баракамі ноч,
як заслона чорная.
Праз вакенца агеньчыкі зор відаць...
Пуста ў Джонавай хаце
яшчэ ад ўчорага,
але ведае Джон—трэба моцна стаяць!

Хай зарубяць яны!
Будзе Джон баставаць!
Пакуль сіла ў Джона змагаецца ён.
Шахтаўласьнік заве на іго працаваць,
Але Джон не машына—
стамляецца Джон!

Джон шаснаццаць гадоў
дзень у дзень пад зямлёй
да дзесятага поту пакутаваў Джон.
У Джона куча дзяцей,
Думак, клопату рой,
Хто-ж яму дапаможа, як паваліцца ён?

Але Джон хоча жыць,
Хоча Джон працаваць
гэта ведае ўласьнік, гэта ведае Джон.
Але будзе змагацца,
Будзе Джон баставаць,
як бастуе сто тысяч такіх як і ён!

## ДЖОН НЕ ПАДАТЛІВЫ

*Магазын для рабочых фабрыканта Лоттке.*

Халодны агеньчык
вандруе па шкле...
Розная ежа,
а пуста ў глотцы.
Бяз грошай у Лоттке
можна з голаду акалець.

А дзе іх рабочаму
Джону набрацца?
Магазын забастоўшчыку на павер не дае.
На капальнях станела
пякельная праца...
Шахтаўласьнікі ставяць
умовы свае...
Ідзі працаваць—зазываюць плякаты,
ідзі працаваць—кліча Лоттке з вітрын,
Але Джон не падатлівы,
Джон упарты,
Джон умее сьціраць
з твару іхняга грым.
Хай бяз вугалю ім
папрацуе краіна,
хай бяз нафты імчацца
ў іх цягнікі,
хай бяз нас ім працуюць
ткальныя машыны —
з Джонам сеньня бастуюць
усе гарнякі!

Сяргей Дарожны.

12-III—32 г. Менск.

**УЗЬНЯЦЬ КЛЯСАВУЮ БАЯЗДОЛЬНАСЬЦЬ, ПАВЫСІЦЬ ІДЭЙНА ПАЛІТЫЧНЫ УЗРОВЕНЬ САЮЗУ — ТАКАВА ЗАДАЧА АБМЕНУ БІЛЕТАЎ**

Фото-эцюд Мазэлева



# РАЦЫЯНАЛІЗАТАР

**Б. Гольман.** (Завод „Комунар“)

Рацыяналізатар Бароўскі, пераступіўшы парог свайго габінэту, аглянуўся навакол і накіраваўся да свайго рабочага стала. Перамагаючы сябе, ён неахвотна працягнуў руку і націснуў на адну з электрычных кнопак. З хуткасьцю электрычнага току, да яго падляцеў мэханічны чалавек і пачаў раскладваць паперы на стале.

Рацыяналізатар Бароўскі сеў на крэсла і пачаў выкручвацца, на ім, прынароўліваючыся як-бы найлепей і найвыгадней умайстравацца.

— К-х-а, к-х-а!—з асаблівым задавальненьнем пакашляў ён і націснуў на другую электрычную кнопку. Другі наэлектрызаваны чалавек, як па заведзенаму мэханізму падышоў да аднае з шаф, адчыніў яе і выбраў досыць аб'ёмістую кніжку з надпісам:

> Кніжка, у якой запісаны паступленьні і рацыяналізацыя рабочых прапаноў

Паклаўшы кніжку перад рацыяналізатарам, нямая прыслуга хацела выйсьці, але рацыяналізатар націснуў на адзін з яе мэханізмаў—атрымаўся трэск пры пераключэньні—і прыслуга стала побач з ім. Рацыяналізар узяў прыслугу за правую руку. Запар некалькі разоў павярнуў яе ўлева, управа, уверх і ўніз, паківаў пальцамі на руцэ і, пераканаўшыся, што суставы ў парадку, палажыў руку на кніжку і пад пахаю ёю зрабіў уключэньне: з паваротам рукі павінен пераварочвацца лісток кніжкі.

Рука ўхапілася за работу... Лісткі—заявы, рабочыя прапановы пачалі мігаць перад ім, рука ўсё перагортвала іх, але рацыяналізатар даўно ўжо перастаў іх пераглядаць...

— У-у-ух! Колькі іх! Трэба з імі разьлічыцца.

Ён палажыў галаву на рукі і, абапёршыся на стол, пачаў думаць, што зрабіць з прапановамі.

* * *

— Алё, алё, рацыяналізатар,—з усьмешкай пачаў з ім здароўкацца, уваходзячы ў яго габінэт рабочы сьлесарна-мэханічнага цэху.

— Дзень добры, таварышы, чым магу быць вам карысным?

— Нам, не нам, а агульнай справе дык і павінен,—сказаў камякаваты рабочы, які стаяў збоку, каля самай сьцяны.

— Мы,—сказаў брыгадзір Марозаў, прыйшлі праверыць як вы рэалізуеце рабочыя прапановы.

— Як мы рэалізуем? А хіба-ж вы ня ведаеце? Запытайце ў рабочых, якія падавалі заявы. Яны вам скажуць самі, што мы даўно прынялі іх прапановы, што яны за гэта атрымалі облігацыі, нават болей, яны па гэтых облігацыях нешта атрымалі. Хэ-хэ хэ. Вы ўсё любіце нападаць на нас.

— Што праўда, то ня грэх—азваўся адзін.—Я атрымаў облігацыі і па облігацыях, але вы, прыняўшы мае прапановы па гонтарэзках, да гэтага часу не правялі ў жыцьцё.

— Я—азваўся другі—таксама падаў некалькі прапаноў па гонтарэзках, атрымаў облігацыі і па облігацыях і да сёнешнага дня нічога ня зроблена.

— Я падаў прапанову аб устаноўцы аднаго асобнага матору да сьвідравальнага варштату. Прапанова даўно прынята. Я атрымаў ужо облігацыі і... нічога ня зроблена.

— Во што, паважаны рацыяналізатар,—рэзюміраваў Марозаў. Мала таго, што вы прынялі прапановы і не праводзіце, вы яшчэ ўхіляецеся ад палепшаньня ўмоў працы.

— Мы зробім!—выкрыкнуў рацыяналізар.

— Так, так, вы добра ведаеце, што ў цэху цесна, вам прапавалі праклясьці вузкакалейку з цэху ў склады, каб лягчэй было і скарэй выгружаць машыны і варштаты, а вы гэта адхілілі.

— Гэта ў нас плянам прадугледжана.

— У вас усё прадугледжана ў пляне, усё вы робіце па пляну, але на справе нічога няма.

— Давайце далей—гіранічна сказаў рацыяналізар, пастукваючы пальцамі па стале.

— Вам прапанавалі ўстанавіць дзьвухтаўровыя бэлькі каля пробнай камнедрабілкі. Вы адхілілі кажучы, што пра гэта многа гаварылі і многа было прапаноў. На сёнешні дзень замест 2 чалавек працуюць 4, замест 7—8 камнедрабілак выкачваюць і падаюць адну, максімум дзьве.

— І вы з-за гэтага толькі прышлі турбаваць мяне і сябе.

— Магу яшчэ дабавіць, калі вам гэтага мала. Вам падалі заяву, што ў кузьнечным цэху з аднаго горна працуе матор у 12 сіл і прапанавалі, каб да гэтага горна быў прыстаўлен моторчык у 2 сілы. Вы на прапанову адказалі, што складзена комісія для высьвятленьня. Прайшло досыць багата часу і на днях вы яму напісалі паштоўку, што дагаварыліся аб тым, каб 3-я зьмена не працавала, таму...

— Таму мы адхілілі яго прапанову.

— Добра... але...

— Але облігацыю ня далі, таму што адпала патрэбнасьць.

— Але падаў гэту думку рабочы, калі-б ня ён, цык мо майстрава работа ішла-б у пустую, і ён мае рацыю, калі крыўдзіцца за такія махінацыі.

— Мала што. Мы тут сядзімо, для справы, а не для разбазарваньня народных сродкаў.

* * *

— Алё, алё паважаны рацыяналізатар, менш карыстайцеся мэханічнымі людзьмі, якія разьлічваюцца на тэрміны. Самі часьцей заглядайце ў цэх. Правярайце і наглядайце за выкананьнем прынятых рацыяналізатарскіх прапаноў. Прыслухоўвайцеся лепш да голасу рабочых. Да рабочых прапаноў. Праводзьце работу па консультацыі рабочых вынаходцаў, дапамагайце рабочым пашыраць іх сьмякалку.

— Мы спадзяемся, што вы выканаеце нашае пажаданьне без умяшаньня партколектыву і заўкому.

— Усяго добрага.

---

**VII унечарговы зьезд саветаў Койданаўшчыны.**




Дом соцкультуры у Койданаве у якім адбываўся зьезд.

Унізу: Прэзыдыум зьезду. Справа налева: т. т. Дзяржынская, Гікало, Галадзед, ст. Койд. РВК Вансоўскі, сакратар койдан. райкома Пушчын і нач. пагранатрада Пятроў.

Фото Мазэлева.



# ТАМОЖНЯ
## на ст. НЕГАРЭЛАЕ

СКОНЧАНА МАСТАЦКАЕ АФАРМЛЕНЬНЕ НОВАЙ АГЛЯДАЛЬНАЙ ЗАЛІ ТАМОЖНІ

Фото І. Салавейчыка



АГУЛЬНЫ ВЫГЛЯД ЗАЛІ




КАРТА ПЯЦІГАДОВАГА ПЛЯНУ СССР У ЗАЛІ ТАМОЖНІ. ПРАЦЫ МАСТАКА В. ВОЛКАВА.

УНІЗУ—ДВА ПАННО ПРАЦЫ МАСТАКА ВАЛЕНЦІНА ВОЛКАВА Ў ЗАЛІ ТАМОЖНІ: КАЛГАСНАЕ БУДАЎНІЦТВА І ДНЕПРАБУД.





М. ЧЫШЭВІЧ

# ЗА БАЯВУЮ ПАДРЫХТОЎКУ ДА СУСЬВЕТНАЙ СПАРТАКІЯДЫ



Дэлегаты слухаюць даклад т. Рыжова

Спартакіяда 1933 г.—урачыстасьць сканчэньня першай пяцігодкі і ўступленьня ў другую, першая сусьветная і чарговая ўсесаюзная спартакіяда. Злучэньне гэтых трох элемэнтаў у адным спортыўным сьвяце ўскладае вялікую палітычпую адказнасьць за яго правядзеньне. Спартакіяда павінна паказаць пролетарскую солідарнасьць рабочых усіх краін, адзіны фронт працоўных у іх барацьбе супроць капіталу, а таксама дасягненьне рабочага спорту і савецкай фізкультуры. Абарона Савецкага саюзу—цэнтральная політычная ідэя, пад кутом гледжаньня якой будзе праводзіцца сусьветная спартакіяда.

Бэрлінская спартакіяда 1931 г. была трэніроўкай перад сусьветнай. Бэрлінскія ўлады забаранілі бэрлінскую спартакіяду, забаранілі прыехаць савецкім фізкультурнікам, але нямецкія рэволюцыйныя спортарганізацыі правялі яе нелегальна.



Адк. сэкратар ВСФКБ Кузьняцоў, старшыня ВСФКБ Рыжоў, старшыня бюро ф.к. ЦСПСБ Гольдбэр

Да спартакіяды застаўся адзін год. Усе колектывы фізкультуры Беларусі павінны тэрмінова пачаць падрыхтоўку да сусьветнай спартакіяды. Сваячасовая падрыхтоўка забясьпечыць пасьпяховае правядзеньне ўрачыстасьці сканчэньня пяцігодкі. Сусьветная спартакіяда—дэмонстрацыя сілы пролетарыяту, яго гатоўнасьці да абароны СССР, а ня проста спортыўная ўрачыстасьць абмежаваная розыгрышам пяршынства па асобных відах спорту. Навакол спартакіяды на фізкультурна-спортыўных вучастках разгорнецца клясавая барацьба ў капіталістычных краінах. Рабочая кляса Савецкага саюзу высоўвае фізычную культуру на барацьбу з адсталасьцю, з бяскультур'ем, перажыткамі буржуазна-мяшчанскага быту, выкарыстоўвае фізкультуру, як сродак падрыхтоўкі працоўных да социялістычнай працы і абароны Савецкага саюзу.

Фізкультура мае вялікія магчымасьці ў справе падрыхтоўкі здаровых, клясава-сьвядомых барацьбітоў на працоўных франтох. У кірунку ажыцьцяўленьня гэтых магчымасьцяй спартакіяда пачнецца з ніжэйшых зьвеньняў фізкультурных організацый—фабрычна-заводзкіх, раённых, рэспубліканскіх спартакіяд. Уся гэтая праца павінна праходзіць у цеснай сувязі з агульнагаспадарчымі і політычнымі задачамі.

---

У Маскве зьбяруцца прадстаўнікі народаў Савецкага саюзу і ўсяго сьвету. У спартакіядзе першы раз будуць прымаць удзел рабочыя фізкультурнікі новых соцыялістычных гігантаў пяцігодкі. Вялікі процант удзельнікаў дадуць фізкультурнікі колгасаў, саўгасаў і МТС.

Ва ўсебеларускай спартакіядзе, якая адбудзецца ў 1933 г. напярэдадні сусьветнай, прымуць удзел школы, вышэйшыя навучальныя ўстановы, рабочыя прадпрыемствы, масавы фізкультурны рух профсаюзаў, спортыўнае таварыства „Дынамо", Асоавіяхім і іншыя організацыі, якія вядуць фізкультурную працу. Да ўсебеларускай спартакіяды неабходна зараз-жа разгарнуць падрыхтоўкі ўсім фізкультурным організацыям.

Патрэбна перабудаваць усю працу стадыёнаў на прапаганду спартакіяды і на масавую здачу норм на значок „Гатоў да працы і абароны", з тым, каб поўнасьцю выканаць кантрольныя лічбы 1932 г. Фізкультурныя організацыі прадпрыемстваў павінны выкарыстаць перапынкі для правядзеньня гутарак-мітынгаў на тэму аб сусьветнай спартакіядзе. Неабходна колектывам фізкультуры наладзіць інтэрнацыянальную сувязь з замежнымі рэволюцыйнымі спорторганізацыямі, організаваць выстаўкі інтэрнацыянальнай працы, дзе паказаць замежным рабочым дасягненьні савецкай фізкультуры ў галіне аўладаньня новымі мэтодамі фізкультурнай працы па комплексу „Гатоў да працы па комплексу „Гатоў да працы і абароны". Усе колектывы павінны правесьці збор сродкаў у жалезны фонд сусьветнай спартакіяды. Усе колектывы павінны змагацца за фізкультурніка—лепшага ударніка на вытворчасьці, што складае адну з галоўных задач па падрыхтоўцы да сусьветнай спартакіяды.

## СКУРЗАВОД „БАЛЬШАВІК" ЗМАГАЕЦЦА ЗА ТЭХНІЧНУЮ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ (МЕНСК)



Брыгада ўдарнікаў т. т. Буры, Хіменчык, Янушкевіч сконструявалі рыфельны вал да шпальт-машын, які да гэтага часу ўвозіўся з-за мяжы



За выпускам тэхнічнай газэты

Выданьне Дзяржаўнага Выдавецтва Беларусі.

Рэдактар МІХАСЬ ЧАРОТ


B000000 1737815